ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№45 (2343)

11 лістапада 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

## ЛІДА — ГОРАД ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



Старажытная Ліда сталася горадам Францыска Скарыны. Да Дня незалежнасці рэспублікі тут было прымеркавана адкрыццё помніка слыннаму беларусу, першадрукару і асветніку. Ён узвышаецца там, дзе праходзяць шляхі-дарогі многіх людзей, што спяшаюцца па будзённых і духоўных справах, — паміж храмам і будынкам гарадскога Савета. Дарэчы, помнік і паўстаў па волі гэтых людзей, грамадзян Ліды, якія пажадалі, каб менавіта Скарына ўзяў іх пад сваё крыло, і ахвяравалі працоўныя рублі на высакародную справу. "Бярыце і чытайце" — словы, напісаныя на помніку, звернутыя да кожнага. Вывучайце тое, што створана чалавецтвам на працягу тысячагоддзяў, набірайцеся мудрасці, неабходнай сёння, каб не ўпасці ў адчай, знайсці правільную дарогу, — вучыць Скарына.

Аўтар помніка — вядомы беларускі скульптар Валерый Янушкевіч, які ўжо не першы раз звяртаецца да постаці Францыска Скарыны.

Д.ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКУ: помнік Ф.Скарыне ў Лідзе.

Фота Г.ГАЙДУРАВА.

Бываючы на Беласточчыне па справах літаратурных і навуковых, я бліжэй пазнаёміўся з сябрамі беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Пра іх творчасць пісаў у прадмове да падборкі вершаў і апавяданняў "белавежцаў", апублікаваных у часопісе "Беларусь" (1991,N 9). Летась лідэр гэтай творчай арганізацыі і прафесар філалогіі Ян Чыквін выдаў апошні, здаецца, пяты зборнік сваіх вершаў. Аўтар даў сваёй кніжцы мажорны загаловак — "Кругавая чара". У беларускай і польскай

**Чаму нікому нельга**
**лёсу перайначыць!**
**Не адсумуе смутак**
**нашых ўсіх зямных трывог —**
**З вачэй злятае белы**
**голуб плачу.**

**І што ёсць час — рака**
**ці акіян!**
**Вытокі дзе яго! І дзе**
**яго скрыжалі!**
**Смыліць бяскрылы лёт**
**жыцця, нібы павеў фіранкі, —**
**З вачэй злятае белы**
**анёл жалю.**

**А чым свабода ёсць! —**
**Для розуму, для сэрца й рук —**
**Цудоўны божы дар!**

*НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ*

*Яна ЧЫКВІНА*

# БЫЦЦЁ І ЧАС У ЛЮСТЭРКУ ПАЭЗІІ

мовах слова чара — дыялектны варыянт чаркі, келіха, кубка, асацыіруецца з сяброўскім застоллем, вясёлай бяседай. Але чытач не сустрэнецца тут з "аргічнай" паэзіяй у стылі ранняга Пушкіна альбо Амара Хаяма. У кніжцы Яна Чыквіна няма верша, які звычайна "ахрышчвае" ўвесь зборнік. Затое ёсць "Крык начной савы", "Калапс", "Апошняя вячэра", "Даўно нежывы бацька полем ідзе", "Каму за сорак, той пазначаны ўжо...", "Герояў ужо няма — асталіся мундзіры...", "Сляза арабіны", "За цішынёю самоты", "Трывожная альба".

Здаецца, зусім не выпадкова польская даследчыца Тэрэса Занеўская, аналізуючы "германэўтыку" ключавых вобразаў і кампазіцыяў паэта (яе артыкул "Свет сумежжа" друкаваўся ў нашым штотыднёвіку "Культура", 1993, 24 крас.), тлумачыць "кругавую чару" ў сэнсе **чаравання** (польскае **чар**, беларускае **чары**), зачараванага кола жыцця і пазнання. "Дарога пазнання, — кажа Т. Занеўская, — нагадвае кола, лінія якога не набліжае і не аддаляе ад загадкі свету. Гэта зачараванае кола, яно з'яўляецца адначасова пасткаю, з якой няма ўжо выйсця".

Выйсце, мне здаецца, ёсць, але яно трагічнае. Як сказаў старадаўні мудрэц, "у вялікай мудрасці шмат смутку, і хто множыць веды, той шмат пакутуе" (Эклезіяст 1, 18).

У "Кругавой чары" Яна Чыквіна выразна прачытваецца гэты "гнасеалагічны" аспект трагізму. Але яго вытокі пачынаюцца з экзістэнцыі, з прынцыповага непрымання духоўным чалавекам злога і бессэнсоўнага пачатку жыцця. Пра гэта верш "Крык начной савы":

**Што ёсць быццё!**
**Што — чалавек! Што — Бог!**
**Пыхлівы чалавечы мык!**
**Чаму усё жыццё свой**
**камень пхаем пад гару!**
**Адгадкі ў свеце,**
**мабыць, ёсць...**
**Але не выкажа язык.**

Як бачым, кніжка пачынаецца з верша, дзе задаюцца пытанні, якія хвалявалі філасофію нашага стагоддзя. Успомнім кнігі М. Хайдэгера "Быццё і час" (1927), Ж.П. Сартра "Быццё і нішто" (1943), Э. Фрома "Уцёкі ад свабоды" (расійскае выданне, 1990). Урэшце, архетып гэтага трагічнага бачання жыцця адлюстраваўся ў антычным міфе пра Сізіфа.

Характэрная для "Кругавой чары" элегічная танальнасць, антынамічнасць светабачання далучаюць аўтара да той плыні інтэлектуальнага трагізму, якая пачалася Эклезіястам, глыбока выявілася ў Дастаеўскага, Ніцшэ, польскага паэта Ц. Норвіда, у некаторых творах нашага М. Багдановіча, урэшце ў экзістэнцыялізме нашага стагоддзя. Чыста эстэтычны аналіз, мне здаецца, не здольны раскрыць амаль апакаліпсічны, часам іранічны драматызм гэтай кніжкі. Тут патрэбны выхад на грамадскі і духоўны вопыт паэта, а яшчэ — на сучасныя сацыяльна-культурныя працэсы ва Усходняй Еўропе, якія можна абазначыць паняццем **галапіруючай цывілізацыі.**

Родная вёска Яна Чыквіна, куды ён нязменна вяртаецца (рэальна і ў паэтычных думках) завецца Дубічы Царкоўныя — надзвычай дакладнае паэтычнае найменне. Яно сімвалізуе арганічнасць традыцыйнай культуры, а яшчэ нейкі сялянскі фундаменталізм. Была неспакойная вясна 1940 года, калі там "на свет з'явіўся Янка".

(Працяг на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДЗЯДЫ*

## ПАМІНАЮЦЬ ПРОДКАЎ




**2 лістапада на Беларусі адзначалі дзень памяці продкаў Дзяды. Раніцай у царкоўных храмах пачаліся службы, якія працягваліся ўвесь тыдзень.**

**"Гэта традыцыя адзначаць Дзяды ўсталюецца надоўга, бо яна вельмі важная для духоўнага здароўя нашай нацыі", — сказаў Васіль Быкаў, які прысутнічаў пры ўстанаўленні Капліцы Памяці каля будынка, дзе калісьці размяшчаўся рэспубліканскі НКУС. Ён адзначыў, што гэтае месца стала пачаткам шляху на Галгофу многіх тысяч беларусаў у нядаўнім мінулым.**

**Адзін з гэтых шляхоў — шлях у Курапаты, месца, дзе ў 1937—1941 гадах ахвярамі бальшавіцкага крывавага тэрору сталі тысячы невінаватых людзей. Тут 2 лістапада раніцай прадстаўнікі мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў усклалі вянкі і кветкі ў памяць знішчаных і загінуўшых. А днём па ініцыятыве Беларускага народнага фронта "Адраджэнне" там жа, у Курапатах, прайшоў жалобны мітынг-рэквіем, на якім выступілі старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч, беларускія паэты Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, лідэр БНФ Зянон Пазьняк. Прагучала жалобная літаратурна-музычная кампазіцыя, свяшчэннаслужыцелі каталіцкай, праваслаўнай, іудзейскай канфесій адслужылі малебны. Прайшоў збор ахвяраванняў на будаўніцтва помніка ў Курапатах.**

**У той жа дзень на Маскоўскіх могілках адбылося адкрыццё надмагільнага помніка арганізатару Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады вучонаму-гісторыку Міхаілу Ткачову.**

**НА ЗДЫМКУ: Дзяды. У Курапатах.**

*ЛІТВА—БЕЛАРУСЬ*

## ЖЫЦЬ ПА-СУСЕДСКУ

**Паміж Літвой і Беларуссю не засталося рознагалоссяў у сувязі з пытаннем аб дзяржаўнай граніцы. Адзіным спрэчным пагранічным пунктам да гэтага часу была чыгуначная станцыя Адутышкес з належачай ёй тэрыторыяй 5,6 гектара. Цяпер яна з'яўляецца ўласнасцю Літоўскай Рэспублікі. Беларусі, у сваю чаргу, на 99 гадоў здадзены ў арэнду санаторый "Беларусь" у Друскінінкаі. Такая дагаворанасць дасягнута ў час праведзенай 29 кастрычніка ў Вільнюсе сустрэчы дзяржаўных дэлегацый Літвы і Беларусі, якія ўзначальвалі прэм'ер-міністры Адольфас Шляжавічус і Вячаслаў Кебіч.**

**Дасягнута дагаворанасць і па іншых праблемах, якія цікавяць абодва бакі. Так, беларуская дэлегацыя з задавальненнем успрыняла рашэнне Літвы адкласці ўвядзенне візавага рэжыму ўезду для жыхароў Беларусі да 1 студзеня 1994 года.**

**Літва таксама створыць умовы Беларусі для адкрыцця прадстаўніцтва ў Клайпедскім порце. Беларуская дэлегацыя прапанавала ўкласці свае інвестыцыі ў расшырэнне порта, таму што зацікаўлена мець выхад да Балтыйскага мора. Плануецца таксама абмен гандлёвымі прадстаўніцтвамі.**

**Абмяркоўвалася магчымасць стварыць сумесны літоўска-беларускі камерцыйны банк, заснаваць сумесныя мытныя і пагранічныя пункты.**

*"МІНСК-2"*

## АБЫДЗЕЦЦА Ў КАПЕЕЧКУ

**Аэрапорт "Мінск-2" ужо сёння тэхнічна здольны прымаць усе тыпы сучасных самалётаў. Аднак узровень абслугоўвання пасажыраў надта далёкі ад таго, што існуе ў цывілізаваных краінах. У сувязі з гэтым на тэрыторыі аэрапорта ў самы бліжэйшы час плануецца будаўніцтва цэлага комплексу, куды ўвойдуць камфартабельная гасцініца, матэль, цэх па вытворчасці бартавога харчавання, цэнтр па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту самалётаў, сістэма па браніраванню і продажу авіябілетаў і іншыя аб'екты.**

**Больш таго, ужо знойдзены інвестар — у яго ролі згадзіўся выступіць адзін з лонданскіх банкаў: ён гатовы прадаставіць на льготных умовах 6-працэнтны крэдыт з трыма гадамі мараторыя. Будаваць усе вышэйназваныя аб'екты "Мінска-2" бярэцца амерыканская фірма "Локхід", высакакласныя спецыялісты якой зарэкамендавалі сябе пры будаўніцтве аэрапортаў у 32 краінах свету.**

**210 мільёнаў долараў — у такую суму абыдзецца прыемнасць мець сучасны аэрапорт, які будзе адпавядаць міжнароднаму ўзроўню.**

*"З усіх рэспублік былога Саюза толькі дзяржавы Балтыі, у якіх да ўлады прыйшлі новыя сілы, змаглі ажыццявіць няхай хваравітыя, але рэальныя пераўтварэнні, якія заклалі асновы для іх інтэграцыі ў Еўрапейскае супольніцтва, як і эканамісты "новай хвалі", што прыйшлі да рычагоў кіравання ў Расіі пасля жніўня 1991 года, змаглі прадухіліць калапс эканомікі і зрушыць рэформы з мёртвага пункта. Рэфарматарская ж бяздарнасць "старых кадраў" з усёй відавочнасцю праявілася ў Беларусі і на Украіне, у якой яна была да таго ж памножана на палітычныя амбіцыі. Партыйна-гаспадарчае кіраўніцтва гэтых дзяржаў, якое прывыкла да ролі выканаўцаў каманд з "цэнтра", аказалася няздольным у новых умовах. Скарыстаўшы незалежнасць, супраць якой яны раней выступалі з мэтай захаваць або нават умацаваць сваё становішча ў рэспубліках, яны цяпер расплачваюцца за сваю эканамічную некампетэнтнасць палітычнымі інтарэсамі сваіх дзяржаў: то далучэннем да ваеннага блока з дзяржавамі Сярэдняй Азіі і Каўказа, то гатоўнасцю прадаць сваю частку Чарнаморскага флоту. Змена кабінетаў на Украіне паказала, што, як ні тасуй калоду з вопытных апаратчыкаў і "аксакалаў" ВПК, вынік адзін — "ахоўнікі мінулага не могуць быць будаўнікамі будучыні".*

*Сяргей ЛЕЎШУНОЎ,*
*намеснік старшыні Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.*

*У ЮНЕСКА*

## ВЫСТУПЛЕННЕ МІНІСТРА

**У Парыжы, у штаб-кватэры ЮНЕСКА, працягваецца 27-я сесія Генеральнай канферэнцыі гэтай міжнароднай арганізацыі. Беларуская дэлегацыя прымае ўдзел у рабоце пленарнага пасяджэння, галіновых камісій і камітэтаў, праводзіць сустрэчы з прадстаўнікамі міжнародных арганізацый і краін — удзельніц ЮНЕСКА.**

**На пасяджэнні камісіі "Культура: мінулае, сучаснае і будучае" выступіў член дэлегацыі міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч. Ён расказаў пра ўдзел урадавых і няўрадавых арганізацый, грамадскасці Беларусі ў рэалізацыі многіх праграм ЮНЕСКА, у тым ліку тых, што праводзяцца ў рамках Сусветнага дзесяцігоддзя развіцця культуры. Гаварылася таксама пра сугучнасць праграм ЮНЕСКА па падтрымцы кнігавыдання, далучэння да чытання дзяцей, узаемаперакладах. Міністр заклікаў нацыянальныя камісіі ЮНЕСКА падтрымаць ідэю правядзення ў Мінску ў маі 1994 года міжнароднай выстаўкі-кірмашу дзіцячай кнігі.**

**У час работы 27-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА адбудзецца вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, будуць працаваць фотавыстаўкі і выстаўкі кніг.**

*МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*



**Германія — адзін з галоўных эканамічных партнёраў маладой Рэспублікі Беларусь. Сувязі дзвюх краін пастаянна расшыраюцца, узбагачаюцца новымі формамі. Вось і нядаўна ў Мінску прайшлі Дні эканомікі зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Галоўным вынікам іх стала, акрамя традыцыйнага заключэння гандлёвых пагадненняў, дамоўленасць аб адкрыцці ў Мінску прадстаўніцтваў Міністэрства гандлю Германіі, а таксама аб стварэнні на зямлі Бадэн-Вюртэмберг Беларуска-германскага гандлёвага дома.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перамоў паміж прадпрымальнікамі дзвюх краін.**

*ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

## ХТО ПОЙДЗЕ Ў ВОЙСКА?

**На трэць "адсеяла" прызыўнікоў на вайсковую службу медыцынская камісія ў Жлобіне. Прычына — слабае фізічнае развіццё і розныя недахопы ў здароўі. Гэты факт сур'ёзна занепакоіў мясцовыя ўлады, якія неадкладна з дапамогай спецыялістаў правялі аналіз і прыйшлі да вываду, што асноўная прычына такога становішча — вынікі аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі.**

*АФІЦЫЙНЫ ПРЫЁМ*

## ПАСОЛ ДАЕ ЎРОК

**Бліскучы ўрок для тых, хто па нейкіх прычынах грэбуе беларускай мовай, даў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Мінску Тансу Акандан. Сваю прамову на прыёме, наладжаным у гонар 70-й гадавіны з дня абвяшчэння Турэцкай Рэспублікі, пан Акандан сказаў на беларускай мове. Толькі адну фразу пасол дазволіў сабе сказаць па-турэцку. Ды і тая была звернута да суайчыннікаў, якія знаходзіліся ў зале.**

**У слове ў адказ Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч цёпла павіншаваў прысутных з нацыянальным святам Турэцкай Рэспублікі. Ён пацвердзіў вялікую зацікаўленасць беларускага боку ў наладжванні розных адносін з Турцыяй. Паводле слоў спікера, Беларусі ёсць чаму павучыцца ў турэцкіх сяброў і перш за ўсё стварэнню па-сапраўднаму рыначнай эканомікі.**

*СІТУАЦЫЯ*

## КАМЕРСАНТЫ НА БІРЖЫ... ПРАЦЫ

**Нечаканыя кліенты сталі з'яўляцца ў Магілёўскім цэнтры занятасці: былыя работнікі камерцыйных і прыватных прадпрыемстваў. Прычына пошукаў работы — няўпэўненасць у будучыні і ў сумленнасці партнёраў. У абласным цэнтры ўжо 20 працэнтаў усіх зарэгістраваных камерцыйных прадпрыемстваў не працуюць, а многія "камерсанты" знаходзяцца ў вышуку.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

"НЕ ДАЙЦЕ загінуць ільну!". Гэтымі словамі канчаецца зварот генеральных дырэктараў льноаб'яднанняў і дырэктараў льнозаводаў Беларусі да вярхоўных уладаў. З-за недальнабачнай эканамічнай і фінансавай палітыкі ўрада ў льнаводстве склалася крытычная сітуацыя. У адкрытым лісце на імя С. Шушкевіча, В. Кебіча і С. Багданкевіча прапануецца канкрэтная праграма выратавання нашага льну.

ПЕРШЫ амерыканскі фермер-добраахвотнік прыехаў у Беларусь, ён мае намер вырошчваць рапс на забруджаных чарнобыльскай радыяцыяй землях. А ўсяго прыбудуць да нас каля 20 амерыканскіх фермераў. Так прадугледжана міжнароднай праграмай "Фермер — фермеру".

ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА колькасць крадзяжоў на чыгунцы. Толькі за 9 месяцаў 1993 года іх ужо маем 235. Гэта толькі ўчыненых самімі работнікамі Беларускай чыгункі. А агульны грабеж вагонаў вылічаецца ў тысячах. Сёлета ў крадзяжах перавозімых грузаў удзельнічаў 161 чыгуначнік.

ПАТРЭБНА доўгатэрміновая праграма рэканструкцыі меліярацыйных сістэм на Палессі, бо толькі яны абароняць тутэйшых жыхароў і іх зямлю ад такой паводкі, якая была сёлета, і ад іншых стыхійных бедстваў. Да такіх высноў прыйшлі ўдзельнікі сустрэчы ў Лунінецкім раёне — вучоныя Акадэміі аграрных навук, інстытутаў меліярацыі і лугаводства, кіраўнікі раёнаў, якія найбольш пацярпелі ад разбуральнай паводкі.

17 ТЫСЯЧ гектараў лесу панішчылі летась пажары. Каб аднавіць страчанае, беларускія лесаводы на вясну 1994 года закладуць новыя бары і гаі на плошчы 19 тысяч гектараў. У асноўным будуць пасаджаны сасна, елка, дуб, бяроза, ясень, клён.

БЕЛАРУСЫ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

## Мікола НІКАЛАЕЎ:

# "МОЙ НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ – ПРА РАДЗІМУ"

**Мы вырашылі не прадстаўляць Міколу Нікалаева: тое, што ён сказаў, лепей за ўсялякае прадстаўленне. Чытайце і ...**

**— Мікалай Віктаравіч, мы знаходзімся з вамі ў будынку, вокны якога выходзяць на Фантанку, і адсюль, лічы, два крокі да Анічкава моста, дзе стаяць славутыя Клотаўскія коні — трапная мастацкая алегорыя, можна нават сказаць, сімвал колішняй Расіі, якая ўзнялася на дыбкі, каб сцвердзіць перад усім светам сваю моц і накіраванасць да прагрэсу, зразумела, тагачаснага. Што гэта за будынак! І што ў ім цяпер знаходзіцца!**

— Гэты — не памылюся, сказаўшы, — палац пабудаваны па праекту не менш славутага, чым Клот, італьянскага дойліда Кварэнгі для Кацярынінскага інстытута шляхетных жанчын. Зараз ён належыць Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, і менавіта тут размешчаны аддзелы нотаў, газет, рэстаўрацыі і студэнцкія чытальныя залы.

**— Па вашых публікацыях у перыядычным беларускім друку многія, напэўна, ведаюць, што вы з''яўляецеся супрацоўнікам гэтай славутай бібліятэкі (былой імператарскай, былой публічнай імя Салтыкова-Шчадрына), але, відаць, не ўсе ведаюць, якую пасаду вы ў ёй займаеце.**

— Загадваю аддзелам газет, з''яўляюся членам Вучонага савета бібліятэкі.

**— Раней вы працавалі ў аддзеле рэдкіх рукапісаў, і гэта, прызнайцеся, гучыць неяк рамантычна. Што вам бліжэй: папярэдні альбо цяперашні занятак, трохі больш празаічны на першы погляд!**

— Шчыра гаворачы, канечне, папярэдні, бо мае навуковыя інтарэсы большай часткай застаюцца там, але і на гэтым месцы, у аддзеле газет, я знаходжу вялікае задавальненне ад працы, бо тут маецца лепшая ў свеце калекцыя расійскай перыёдыкі — ад першых пятроўскіх газет і да сённяшняга дня, у тым ліку і нефармальныя выданні. Тры гады працы на гэтай пасадзе высветлілі той факт, што дарэвалюцыйная Беларусь па газетных матэрыялах яшчэ не вывучалася, і даследчыка чакае тут залатое жніво — і пры вывучэнні палітычнай гісторыі, і гісторыі журналістыкі, і гісторыі культуры. Але адразу робіцца бачнай і цяжкасць пры рабоце з дарэвалюцыйнымі газетамі: адсутнічаюць паказальнікі зместу. Узяцца за гэту велізарнейшую па аб'ёму працу не асмеліўся пакуль ніхто — ні ў Расіі, ні на Беларусі.

**— Цікава, а ці былі ў вас папярэднікі — беларусы па паходжанню, якія прысвяцілі сваё жыццё працы ў гэтай бібліятэцы!**

— Іх было шмат. З гонарам за беларусаў магу назваць Каэтана Андрэевіча Касовіча, родам з Віцебска, вядомага санскрытолага. Менавіта дзякуючы яго перакладам Махабхараты і Рамаяны, індыйская філасофія зрабілася даступнай для расіян.

З Віцебска паходзіў тэарэтык бібліятэчнай справы і дойлід Васіль Іванавіч Сабальшчыкоў, вельмі цікавыя ўспаміны пра якога пакінуў вядомы рускі крытык Стасаў.

У шэрагу знакамітых беларусаў, якія рабілі ў бібліятэцы, — Віктар Каліноўскі, брат Кастуся Каліноўскага, і, нарэшце, мой зямляк з Наваградка Аўрам Гаркаві, даследчык гебрэйскіх і самарыцянскіх старажытных рукапісаў.

**— А яны займалі тут нейкую пасаду ці толькі былі карыстальнікамі тых каштоўнасцяў, якія тут захоўваюцца!**

— Усе яны — штатныя супрацоўнікі бібліятэкі, а спадар Ігнатоўскі, які, дарэчы, запрасіў да сябе на працу братоў Каліноўскіх, займаў тут пасаду бібліятэкара Імператарскай бібліятэкі. Па даўнейшай "табели о рангах" — гэта вельмі высокая пасада, роўная па цяперашнім часе загадчыку аддзела. Гэткім бібліятэкарам быў у свой час вядомы рускі байкапісец Крылоў.

**— Некалькі гадоў таму вы абаранілі дысертацыю на тэму "Рукапісная кніга ў беларускіх землях з XIY па XYIII стагоддзі" і, наколькі мне вядома, працягваеце займацца навуковай дзейнасцю. Якія знаходкі зроблены вамі за апошні час!**

— Падрыхтаваў да друку знойдзеную ў аддзеле рукапісаў работу беларускага святара і гісторыка протаіерэя Івана Грыгаровіча, сучасніка Пушкіна. Работа называецца "Беларуская іерархія". Яна была напісана амаль 170 гадоў таму, але лічылася страчанай, на яе толькі спасылаліся і дарэвалюцыйныя даследчыкі, і сучасныя, у прыватнасці, Мікалай Улашчык. І вось чытачы і тыя, хто цікавіцца гісторыяй старажытнай беларускай царквы, могуць азнаёміцца з гэтым творам, бо ў пачатку студзеня праца нашага славутага гісторыка выдадзена "Беларускай энцыклапедыяй".

Падрыхтаваў таксама кніжку, якая мае назву "Палата кнігапісная". Варта зазначыць, што рукапісная беларуская кніга раскідана па сховішчах і архівах ледзь не ўсяго свету, і пабачыць усе манускрыпты аднаму чалавеку практычна немагчыма, таму я лічу важным дасягненнем тое, што здолеў падрыхтаваць да кніжкі шмат (болей за сто) ілюстрацый — фотаздымкаў нашых старадаўніх рукапісаў, паездзіўшы, колькі мог, па архівах і бібліятэках Кіева, Львова, Кракава, Масквы, Вільні, Санкт-Пецярбурга.

**— Мяркуючы па тым, што вы расказалі, відаць, і ў наш час можна рабіць неспадзяваныя адкрыцці. Ці чакаюць яны тых, хто наважыцца прыехаць да вас у бібліятэку, і ці могуць яны разлічваць на нейкую дапамогу!**

— Я нікому не адмаўляю, калі нехта прыязджае з Беларусі ці з якога другога месца, і стараюся падказаць, дзе знаходзяцца тыя ці іншыя матэрыялы. Але практыка паказала, што такія кансультацыі не вырашаюць праблемы і для беларускіх даследчыкаў, бо, па-першае, даследчыкаў шмат, па-другое, не заўсёды яны могуць натрапіць на дасведчанага па іхнім пытанні бібліёграфа. Праблему можна вырашыць падрыхтоўкай паказальніка "Альбарутэніка (беларусіка) у Пецярбургскіх зборах". Карыстальнікаў гэтым паказальнікам было б шмат... Археаграфічная камісія Украіны займаецца зараз аналагічнай працай, і я са шкадаваннем і трохі непаразуменнем гартаў 17-ты том прац Інстытута ўкраінскай археаграфіі за 1992 год, цалкам прысвечаны архіву епіскапа Паўла Дабрахотава, колішняга выкладчыка Жыровіцкай семінарыі. Яго калекцыя і архіў — гэта практычна старажытны архіў Жыровіцкага манастыра. На жаль, украінскія калегі залучылі гэтыя дакументы цалкам да крыніц украінскай гісторыі, не пакінуўшы нам, беларусам, нічога...

**— А ў чым прычына такой нашай нядбайнасці ў адносінах да сваёй спадчыны!**

— На Беларусі маецца найбольш пяць устаноў, якія займаюцца збіраннем спадчыны (Нацыянальная бібліятэка Беларусі, бібліятэка Акадэміі навук, сектар гістарычных крыніц пры АН Беларусі, "Скарынаўскі цэнтр", кафедра гісторыі Гродзенскага універсітэта і асобныя супрацоўнікі былога Інстытута гісторыі партыі), але ўсе яны займаюцца пошукам нейкіх канкрэтных матэрыялаў, не маючы ў сваім багажы агульнай канцэпцыі збірання нацыянальнай спадчыны. Гэткай канцэпцыі пакуль што проста не існуе, і праз тое між гэтымі ўстановамі няма аніякай каардынацыі, бо Беларусь не займела яшчэ сваёй археаграфічнай камісіі, якая ўзначаліла б гэту справу. Застаецца толькі чакаць, што некалі і мы паразумнеем.

**— Мікалай Віктаравіч, вас, здараецца, вельмі цяжка знайсці вось у гэтым кабінеце. Куды вы адсюль знікаеце!**

— Гэта сакрэт! А сакрэты, як вы ведаеце... Каб хто пахадзіў разам са

(Заканчэнне на 7-й стар.).



Яшчэ адну восень падарыў Бог старой. Толькі пражытыя гады не вельмі радуюць яе: на сконе веку з Чарнобыля прыйшла бяда. І давялося бабулі пакінуць вёску Касіцкую, што на Веткаўшчыне. Ёй пабудавалі новы дом з усімі выгодамі, але не выкінуць з сэрца памяць аб родных мясцінах, дзе прайшла большая частка жыцця, дзе нарадзіліся дзеці, унукі... І калі здарыцца часінка, тэпае старая па знаёмай дарозе, каб хоць адным вокам глянуць (хто ведае, мо ў апошні раз!) на сваю Касіцкую...

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### ДОРАЦЬ СВАЕ ПЕСНІ

Плённа працуе ў Польшчы беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", якім кіруе паэт Ян Чыквін. У бібліятэчцы гэтага літаб'яднання ўжо пабачылі свет кнігі Надзеі Артымовіч "Сезон у белых пейзажах", Уладзіміра Гайдука "Блакітны вырай", Віктара Шведа "Родны схоў", Зосі Сачко "Над днём похіляна", Георгія Валкавыцкага "Віры", Яна Чыквіна "Кругавая чара", Ларысы Геніюш і Юркі Геніюша "Маці і сын", Тэрэсы Занеўскай "Дарэмнае падарожжа. Нарысы аб беларускамоўнай паэзіі ў Польшчы" (на польскай мове).

А нядаўна ў Беластоку ў бібліятэчцы "Белавежы" з'явілася яшчэ адна кніжка — літаратурны альманах "Мае песні табе дару". Сюды ўвайшлі толькі творы маладых беларускіх літаратараў Польшчы. Самаму старэйшаму з іх Віктару Стахвюку сорак пяць гадоў, а самыя маладыя аўтары Яўген Вапа і Яніна Шостак маюць толькі па дваццаць восем гадоў.

Акрамя названых вышэй аўтараў у альманаху выступаюць са сваімі творамі Валя Анішчук, Юрка Баена, Марыля Базылюк, Ніна Гаўрылюк, Вераніка Леанюк, Міра Лукша, Жэня Мартынюк, Ірына Свентахоўская і Андрэй Сцепанюк.

Іх філасофскія і медытацыйныя творы-роздумы вызначаюцца свежасцю думкі, арыгінальнасцю і навізной. У асноўным гэта вершы-верлібры:

**Дзе ж мы свежыя**
**з малаком на вуснах**
**дзе ж дні пахучыя марамі**
**калі з нас эмануе слодыч веры**
**у ідэю кахання**
**дзе ж славы жэст**
**час — прамінанне**
**свет — прамінанне**
**вечнасць дзе ж**

**Ніна ГАЎРЫЛЮК.**

У альманаху змешчаны таксама другі раздзел рамана Джэймса Джойса "Уліс". Ён мае назву "Нестар". Твор пераклаў на беларускую мову Ян Максімюк.

Спонсарамі літаратурнага альманаха "Мае песні табе дару" выступілі беларусы з Кліўленда (ЗША) і спадар Мірослаў Целушэцкі, які ўзначальвае на Беласточчыне фірму "Амега".

### З ДОБРАЙ РУКІ МІКОЛЫ ГАЙДУКА

Беластоцкі пісьменнік, фалькларыст, краязнаўца і гісторык Мікола Гайдук добра вядомы і ў Беларусі, Дзве яго займальныя гістарычныя кнігі ў апошні час прыцягнулі ўвагу чытачоў. Яны выйшлі з друку ў Мінску. Гэта зборнік апавяданняў "Трызна" (1991 год) і кніга гістарычных эсэ "Паратунак" (1993 год).

Літаральна нядаўна Мікола Гайдук сабраў, уклаў і напісаў прадмову да новай кніжкі "Храм і верш", якая тысячным тыражом пабачыла свет.

У кніжцы шырока прадстаўлена паэтычная геаграфія беларускага праваслаўя. Такой кніжкі ў нас, у Беларусі, яшчэ не было. Сярод твораў — творы М.Гусоўскага, К.Тураўскага, Ф.Скарыны, М.Багдановіча, С.Палуяна, Н.Арсенневай, беластоцкіх паэтаў М. Лукшы, Ю.Баены, С.Яновіча, У.Місеюка, Н.Артымовіч і В.Шведа. Друкуюцца і вершы мінскіх паэтаў А.Бембеля, У.Сцяпана, А.Канапелькі, Х.Лялько, В.Шніпа і Л.Рублеўскай.

Зборнік "Храм і верш" мае не толькі духоўную каштоўнасць, але і мастацкую. Ён аздоблены здымкамі праваслаўных святыняў Беласточчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

### НОВЫ ЛІЦЭЙ У ГАЙНАЎЦЫ

15 кастрычніка гэтага года ў Гайнаўцы (Беластоцкае ваяводства) перадалі ў карыстанне новы будынак агульнага адукацыйнага ліцэя — аднаго з двух у Польшчы — з беларускай мовай навучання. Аб"ект мае шаснаццаць класных залаў, актавую залу, пакойчыкі для школьнага радыёвузла, а таксама добра абсталяваныя лабараторыі для навучання замежным мовам і хімічную.

Будаўніцтва працягвалася ўсяго пятнаццаць месяцаў і каштавала 20 мільярдаў злотых, якія на гэтую мэту выдзеліла Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

У новай школе зараз вучыцца каля трохсот асоб, у тым ліку 120 у чатырох першых класах. У наступным годзе, калі будуць на гэта грошы, распачнецца будаўніцтва залы для фізкультурных заняткаў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ.**

Беласток.

*НА 100-я ЎГОДКІ НАРАДЖЭННЯ*

*Кастуся ЕЗАВІТАВА (5.XI.1893 — 23.V.1946)*

# ПАКЛІКАНЫ КРАІНАЙ БЕЛАРУСЬ

## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ К. ЕЗАВІТАВА

Ніякага адказу я, на жаль, яшчэ не атрымаў.

Сеннека трапіла да мяне газета "Савецкая Беларусь", N 173 ад 28 ліпеня, з якой я даведаўся, што Дзяржаўная Бібліятэка "на днях адправіла значную партыю беларускіх выданьняў для Латвійскай Дзяржаўнай Бібліятэкі" і г.д.

З гэтага дазваляю сабе думаць, што раду маю і перамовы з Латвійскай Дзяржбібліятэкай Вы выкарысталі.

Не выключона, што за пропуск гэтых кніг у бібліятэку прыдзеццца яшчэ змагацца з тутэйшымі фармалістамі, якія мо будуць даводзіць, што кнігі тутака непатрэбны, дык гэтую барацьбу павядзе, зразумела, не бібліятэка, для якой гэта справа не баліць, а тутэйшыя беларусы, якія падымалі справу аб беларускім аддзеле. Каб залатвіць гэтую справу, абавязкова неабходна выслаць мне [належныя] весткі. Не зашкодзіла бы справе, каб і ў інфармацыях сваіх у прэсу менскую Дзяржбібліятэка зазначала, што кнігі ў Рыгу пасланы па просьбе Рыскіх беларусаў і Навукова-Краязнаўчага Беларускага гуртка, ад імя якога я і да Вас пішу і размаўляў з Латвійскай Дзяржаўнай Бібліятэкай.

**К. Езавітаў,**
**Старшыня Беларускага Навукова-Краязнаўчага гуртка.**

**Яго Міласьці Рыгору Рамановічу Шырме**
29 красавіка 1933, Рыга.

**Высокапаважаны Грамадзянін,**

дзякуемо Вас за атрыманы квартэт. Рыхтуемся тутака да друку і разчытаваемо апісанае алоўкам, каб скамбінаваць, як гэта даць у друку.

Сымфонію лепш пісаць для поўнага аркестру. Мы тутака ўжо гутарылі з радыёфонам і ён згодны пусціць яе па радыё. Гэта дасць заробак і аўтарам, бо аўтарскія радыёфон выплачвае акуратна. Мы тутака ўжо два разы давалі беларускія сьпевы па радыё (радыёфон перакладае іх на латыскую мову і друкуе ў сваіх праграмах латыскі перавод, каб лягчэй было латышом сачыць за беларускімі словамі сьпявачкі).

Ці няма ў Вас мэлёдый для "Пінскае шляхты"? Я хачу перадрукаваць яе з нотамі. Ужо даўно трэба было б гэтую п'есу выдрукаваць з нотамі, але неяк ніхто за гэтую справу не ўзяўся.

Мне дужа няёмка, што я ўвесь час эксплуатую Вас, сам пакуль што яшчэ нічога не пераслаў Вам на выдаткі. Спадзяюся хутка зрабіць гэта.

З грамадскім прывітаньнем
**К. Езавітаў,**
**рэдактар штомесячніка**
(час. "Беларуская школа ў Латвіі". — **А.К.**)
**Сакратар рэдакцыі Г. Нікіфароўская.**

*Спр. 53, арк. 17-17 адв.*

* * *

**Яе міласьці Грамадзянцы Людвізе Войцікавай.**
29 красавіка 1933, Рыга.

**Высокапаважаная Грамадзянка,**

не адказаў вам таму, што нічога станоўчага не мог адказаць у справе "Пчалы".

Я спісаўся з Коўнай і Прагай, дзе грамадзянін М. Вяршынін дужа зацікавіўся справай прадажы зёлкаў, але просіць яму даць спраўку: якія зёлкі і ў які кошт могуць быць дастаўлены ў Прагу. З ім трэба Вам сьпісацца безпасрэдна (Прага, 2, Вендзігова 4, проф. М. Вяршынін).

У нас у Латвіі справаю зьбірання зёлкаў могуць заняцца разам з Вамі, а таксама і зьвязаць Вас з Рыскімі гандлярамі, дзьве арганізацыі: Таварыства Беларускае моладзі ў Латвіі, якое мае 17 аддзелаў у Латгаліі і Таварыства "Араты", з апошнім Вам трэба сьпісацца (Дзьвінск, Беларуская гімназія, Варшаўская вуліца 16, дзелаводу І. Фёдараву і вучыцелём Уладзіміру Раткіну і Відаўскаму). Належныя рэкамендацыі я тутака зрабіў і зраблю дадаткова.

"Заранку" ў пераплётах прашу выслаць нам у рэдакцыю на місію ў ліку 15—20 экзэмпляраў. Мы распрадамо, зробімо абвестку і можа раскачаемо на большы лік экзэмпляраў.

Вельмі дзівімося, чаму ў Вас зара не выходзе ніводнае радзікальнае часопісі.

**К. Езавітаў,**
**рэдактар штомесячніка.**
**Г. Нікіфароўская,**
**сакратар рэдакцыі.**

*Спр. 53, арк. 19-19 адв.*

* * *

**Рэдактару штомесячніка "Шлях моладзі" гр. Я. Найдзюку.**
Рыга, 3 траўня 1935 г.

**Высокапаважаны Грамадзянін,**

далучаную да гэтага афіцыйную паперу ў справе сьвяткаваньня 450-х угодкаў нараджэньня Францішка Скарыны прашу перадаць прэзыдыуму Інстытута Гаспадаркі і Культуры, а зьмест яе і нашу прапазыцыю — апублікаваць у віленскай прэсе. Мы лічым справу гэтую надзвычайна важнай.

Магчыма, што шляхам добра праведзенай газэтнай кампаніі ўдасца змусіць Акадэмію Навук і адпаведныя ўлады паставіць Ф. Скарыне помнік у Полацку. А мо і віленскае наша грамадства раскачаецца хоць бы на тое, каб паставіць Скарыне які-колечы бюст у Вільні.

Дужа шкадую, што не маю ніякіх матэрыялаў аб нябожчыку Жылцы. Мы тутака зьбіраемо бібліяграфічныя матэрыялы і маемо іх даволі, але аб Жылцы нічога няма. (Прашу прыслаць Вашу і ўсёй рэдакцыйнай калегіі: фотографіі і аўтобіяграфіі. Справу гэтую будзьце ласкавы не адкладаць, бо некаторые грамадзяне праз усё жыцьцё ніяк не сабяруцца даць аб сабе самых кароткіх зьвестак).

Пасылаю Вам у вокладцы камплект штомесячніка "Беларуская школа ў Латвіі" за ўвесь час выхаду з 1926 па 1933 уключна.

"Паварот" у адносінах польскае прэсы і "цікавасьць" яе да беларусаў я тлумачу сабе ня толькі набліжанымі выбарамі ў Сойм, але яшчэ адным, вельмі важным фактам, можа больш важкім для польскіх палітыкаў, чым выбары. Справа ў тым, што з уваходам СССР у Лігу Нацый ён атрымаў права падымаць у гэтай установе пытаньне аб стане беларускае і ўкраінскае меншасьці ў Польшчы. Да таго часу, пакуль расейска-польскія адносіны былі зусім добрыя і ў СССР ня было падпісана ўмовы з Францыяй, падымаць пытаньні аб польскіх меншасьцёвых справах, аб праўным стане беларусаў ды ўкраінцаў, СССР было нявыгадна, каб не псаваць польска-савецкіх адносінаў. Зара, паколькі Польшча імкнецца ў бок Нямеччыны, што выклікае ўжо пэўную сьцюдзённасьць да палякоў з боку ня толькі французаў, але і ангельцаў ды шмат якіх іншых, аб'яднаных каля Лігі Нацый дзяржаў, СССР ня толькі нічога не с т р а ц і ц ь , але набудзе сабе вялікі палітычны капітал, калі заступіцца за беларусаў ды ўкраінцаў. Гэтую палітыку "абароны малых народаў і дзяржаў" СССР якраз зара распачынае, падтрымоўваючы Балтыку, Малую і Балканскую Антанты.

Вось чаму палякі зара схапіліся за беларусаў. Ім ходзі аб тое, каб знайсьці сабе дакумэнты, доказы і асобаў, якія былі б гатовы ў патрэбны момант сьведчыць у Лізе Нацый, што беларусом у Польшчы жывецца добра, што беларусы с а м і адкідаюць у с я л я к і я спробы заступніцтва і абароны з боку каго б ні было.

Вільня думаючая і адказная павінна гэта зразумець і выкарыстаць момант. Усё што магчыма будзе ад палякаў адваяваць у гэты момант, трэба адваёвываць, але калі б за Заходнюю Беларусь пачаў заступацца СССР, дык віленцам ня трэба было б, на угоду паляком, адбрыківацца ад гэтых актаў цікавасьці і абароны, але ў крайнім выпадку абмінуць іх маўчаньнем. Хаця, на мой погляд, маўчаць было б не карысна, а трэба было б адгукнуцца ў тым сэнсе, што канстатаваць факт запраўднага, жудаснабясправўнага стану беларусаў у Польшчы і выказаць сваё задаваленьне з поваду таго, што справы беларускія выходзяць нарэшце на агульнаэўропейскі форум. Зразумела, што рэверансаў і падзякаў ня патрэбна, як некарысны і адбрыківаньні.

У зьвязку з усім гэтым зноў падкрэсьліваю, што віленчукі зара павінны парупіцца аб тым, каб каля Нацыянальнага Камітэту былі аб'яднаны ўсе кірункі беларускае грамадзкае думкі ў Заходняй Беларусі, каб ён быў а г у л ь н а - б е л а р у с к і м н а р о д н ы м рэпрэзэнтантам, а ня толькі аб'яднаньнем пэўнае групоўкі. Трэба павесьці перагаворы, каб у Нацыянальны Камітэт увайшлі: і "луцкевічоўцы" з Навуковым Таварыствам, і "астроўцы" з сваімі арганізацыямі, і ТБШ, і ТБА ды іншыя групы.

Гэта нічога, што будуць можа спрэчкі. Гэта бывае ў кождым народным прадстаўніцтве, у кождым парлямэнце. А Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ўжо даўно час стануць на такі грунт, каб стварыць з сябе запраўдны Беларускі прэдпарлямэнт Заходняе Беларусі. Гэта надзвычайна ўмацавала б ня толькі вагу самага Камітэту, але і вагу ўсяго беларускага руху ў Заходняй Беларусі.

У зацятым пэрсанальным і групавым змаганьні старэйшае грамадзтва Вільні ўжо даўно "за дрэвамі ня бачыць лесу" і траціць агульныя пэрспэктывы руху, бо гэтыя пэрспэктывы засланяюцца пэрсанальнаю ненавісьцю і зьняvagаю адзін да аднаго, моладзь жа, надзея нашага народу і нашага адраджэньня, павінна адчуваць правідловы напрамак і павінна зрабіць энергійныя высілкі на тое, каб консолідаваць сілы ў с е х кірункаў супроць а г у л ь н а г а ворагу. Унутрашнія спрэчкі з часам будуць выбухаць, але палохацца іх няма чаго.

З грамадзкім прывітаньнем. Моцна цісну руку.

**К. Езавітаў.**

*Спр. 73, арк. 56-57 адв.*

* * *

**Да Янкі Станкевіча**
Рыга, 12 кастрычніка 1939 г.

**Дарагі Сябру,**

нарэшце, хоць ад аднаго віленчука атрымаў я вестку!

Тутака ў нас былі чуткі, што палякі, адыходзячы з Вільні, шмат пабілі беларускіх дзеячоў.

У звязку з пераходам Вільні ў Літоўскую дзяржаву, па залат'ўленьню фармальнасьцяў, ты зможаш зноў паехаць у сваю хату.

Побыт у Коўні скарыстай для дзвюх рэчаў:

1) палагаднянньня ковенскіх беларускіх груповак, бо зара ня час на звады ды барацьбы, а надышла гадзіна для рэальнае грамадскае працы;

2) перагавораў з урадам, бо ён павінен гарантаваць беларусам нацыянальна-культурную аўтаномію, а таксама і грашовую дапамогу эканамічным і культурным пачынаньням.

Будзе ганьба і в я л і к а я ш к о д а беларускаму руху і беларускім позыцыям у Ліцьве, калі і надалей беларусы будуць грызьць с а м і сябе!

За якія правіннасьці арыштавалі былі цябе палякі?

Што робіць Клаўдыюш?
Як трымаецца Якавюк?
Моцна цісну руку.

**К.Е.**

*Спр. 53, арк. 32.*

* * *

**/Да неўстаноўленай асобы/**
Рыга, 17 студзеня 1943 г.

**Даражэнькая Марыя Уладзімераўна!**

Вітаю Вас з вялікім запазьненьнем з Новым Годам і шчыра жадаю Вам усяго найлепшага — найбольш добрага здароўя і бадзёрага настрою, якія зьяўляюцца ў нашы цяжкія часы самым дарагім і самым галоўным.

Я шмат працую. Многа пішу.

Прашу выбачыць, што і Вам пішу на машынцы, але ў мяне ад пісаньня ўжо гадоў з 20 абразаваўся вечны мазоль на сярэднім пальцы і бываюць дні, калі я не толькі не магу ўзяць пяро ў рукі, але і відзець яго не магу без некаторай нэрвовай дрожы, якая ідзе ад пальца ў локаць і далей у плячо. Дык апошнім часам толькі на машыне і пішу.

Не абражайцеся на мяне і не злуйцеся, калі я не адразу адказваю, бо часамі бывае гэтак многа пільнае працы, што працую нават уночы і ўсё-ткі не маю магчымасьці з усім справіцца.

Жывём у цяжкі і жудасны час, перажылі і перажываемо шмат цяжкіх падзеяў, але ў будучыні яшчэ іх будзе не менш і, відаць, няхутка зажывём мірным жыцьцём, аб якім ужо горача пачынае лятуцець усё чалавецтва.

Паасобныя сямейкі, добрыя сябры і цэлыя народы павінны як мага цясьней трымацца адзін за аднаго, каб не апынуцца толькі цацкамі ў рукох мацнейшых і больш згуртаваных.

Нажаль ня ўсе беларусы яшчэ разумеюць гэтую простую ісьціну! Нават птушкі аднае пароды і зьвяры трымаюцца сваімі стаямі і табунамі. Толькі дзеці народу нашага разбрыдаюцца ўсё яшчэ па чужых табарох, дзе іх эксплёатуюць і лічаць людзьмі другога сорту.

Асабліва горка бачыць, калі ад свайго народу ўходзе на службу да другіх ягоная інтэлігенцыя.

Моцна цісну руку і жадаю ўсяго найлепшага.

**Ваш К. Езавітаў.**

*Спр. 79, арк. 35.*

* * *

**Яго Міласьці беларускаму кампазытару А. Туранкову.**
7 лютага 1943 г., Рыга.

**Высокапаважаны Грамадзянін!**

Атрымаў я Вашыя апошнія рамансы, а таксама і ноты для аркестру і піяніно. Шчыра дзякую.

Вашы 7 беларускіх рамансаў гэтымі днямі выйдуць з друку.

Затым здаю ў цэнзуру надасланыя Вамі рэчы новыя.

Не ведаю, ці мелі Вы магчымасьць атрымаць новую кнігу вершаў Ларысы Геніюш з Прагі? На ўсякі выпадак пасылаю Вам яе і дужа прашу пашукаць у ёй што-колечы для новых Вашых працаў.

Хутка надашлю Вам некаторыя мелёдыі беларускіх народных песьняў, запісаных тутака ў Латвіі. Можа Вы іх гарманізуеце для хору і салістаў.

Канчаю дзьве вялікіх публіцыстычных працы, а затым спадзяюся напісаць Вам лібрэта для опэры.

З грамадзкім прывітаньнем
**К. Езавітаў,**
**Старшыня**
**Беларускага аб'яднаньня.**

*Спр. 85, арк. 58.*

* * *

**Да С.П. Сахарава**
18 сакавіка 1943 г., Рыга.

**Даражэнькі Сяргей Пятровіч!**

Усім сэрцам спачуваю Вашаму гору і Вашаму адзіноцтву, тым больш што я сам перажыў нядаўна страту ўсіх сваіх, аб чым Вы ўжо ведаеце.

Асталіся мы з Вамі адзінокімі, як тыя дубы ў полі на мяжы. Мо і сумна нам, але нас павінна супакойваць сьвядомасьць таго, што пад ценьню нашых постацяў нямала яшчэ людзей, з ліку нашых латвійскіх беларусаў, знаходзілі і знаходзяць адпачынак у сваёй нялёгкай працы.

Мы з Вамі ўжо даўно не жывём для с а б е, дык пацягнемо і далей наш воз.

Распачыналі мы ў 1921 годзе. Безьлюдзь была. Потым былі і ўздым працы, і разбурэньні, і новыя ўзьлёты і падзеньні, але добра тое, што мы не здрадзілі свайму народу і сваім пачуцьцям, з якімі выйшлі на працу, пачынаючы яе.

Я зараз часта хварэю. Перапрацаваўся. Аднак цягну. "Беларуская школа" ў тыпаграфіі. Друкую тое, што дазваляюць. Зборнік сьпеваў рыхтую. Для альманаху не маю прост часу.

Цяжка Вам — разумею, але-ж трымайцеся, Даражэнькі Сяргей Пятровіч!

Чуў я, што Іра жадае, каб Вы пераехалі ў Рыгу. Скажу Вам шчыра, як сябра. Не пераязджайце. У Розенаве Вы — дырэктар і вялікая беларуская сіла, а ў Рызе Ірына зробіць з Вас дзедушку-няньку.

Можа мне аб гэтым няварта было б пісаць, але ж мы з Вамі пасьля чвэрцьвяковага сяброўства ўжо ня толькі добрыя знаёмыя і сябры, але і блізкія людзі, шмат бліжэйшыя, чым кроўная радня! Дык выбачце, калі гэта Вам было няпрыемна прачытаць.

Жадаю Вам многа сілаў і здароўя, каб падняць Розенаўскі беларускі гімназыяльны цэнтр на належную высату і распаліць у ім запраўднае беларускае ідэёвае вогнішча.

Моцна цісну руку.

**К. Езавітаў.**

*Спр. 79, арк. 41.*

**Працяг.**
**Пачатак у № 44.**

ЯШЧЭ АДЗІН

БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЭТ

# ДОБРАЯ ІДЭЯ КАШТУЕ ДОРАГА

Беларускі інстытут культуры стаў універсітэтам. У канцы кастрычніка з такой нагоды адбыўся ўрачысты вечар. Гэта было вялікае і вясёлае свята, у якім прымалі ўдзел грамадскія дзеячы, работнікі навукі і культуры, а ў добры шлях навучальную ўстанову блаславіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. Напярэдадні свята я мела гутарку з **Галінай ГРЫГАРОВІЧ**, рэктарам Беларускага універсітэта культуры. Абаяльная і разумная жанчына, чалавек, адданы справе нацыянальнага адраджэння, Галіна Дамінікаўна лічыць асноўным у рабоце ўстановы, якую ўзначальвае, выхаванне свядомых, высокакваліфікаваных спецыялістаў, здольных несці ў масы высокую культуру, духоўнасць, спрыяць выхаванню гарманічнай асобы.

Я ведала, што стварэнне новага універсітэта звязана з імем нашага выдатнага земляка Барыса Кіта, і спытала пра гэта ў Галіны Грыгаровіч.

— Мы ўдзячныя нашаму вялікаму суайчынніку за ідэю, якую ён прапанаваў. Добрая ідэя, як вядома, дорага каштуе, — адказала яна.

Прыехаўшы два гады назад на Беларусь пасля працяглай разлукі з ёю, Барыс Кіт быў апантаны ідэяй стварэння беларускага нацыянальнага універсітэта. Марыў ён, каб такая ўстанова з'явілася на яго роднай Навагрудчыне, па меры сіл сваіх збіраўся дапамагчы ёй стаць на ногі і матэрыяльна. Цяперашняе эканамічнае становішча краіны перашкодзіла ажыццяўленню задумы, але была выказана прапанова стварыць новы нацыянальны універсітэт на базе інстытута культуры, адкрыўшы яго філіі па ўсёй рэспубліцы. (На сённяшні дзень адкрыты тры філіі — у Магілёве на базе бібліятэчнага тэхнікума, у чарнобыльскай зоне на Гомельшчыне, дзе рыхтуюцца педагогі па рэабілітацыі асобы сродкамі мастацтва, і ў Навагрудку рыхтуюцца спецыялісты па народных рамёствах). З прапановай Б.Кіт згадзіўся і абяцаў паклапаціцца пра спонсараў, якія будуць аказваць дапамогу першаму нацыянальнаму універсітэту культуры. 12 красавіка тут быў урачыста адзначаны дзень, нараджэння земляка і была ўпершыню выказана думка, што можа з цягам часу універсітэт будзе насіць імя Барыса Кіта.

Неабходнасць стварыць такую ўстанову разумелі і ў Беларусі. Адным з хросных бацькоў новага універсітэта на інаўгурацыі быў названы і міністр культуры Я.Вайтовіч.

**— Галіна Дамінікаўна, змяніўся статус узначальваемай вамі навучальнай установы. Інстытут культуры стаў Беларускім універсітэтам культуры. Ці змянілася штосьці, акрамя назвы?**

— Безумоўна! Каб мянялася толькі шыльда, не варта было б затрачваць такія намаганні. Наш універсітэт будзе сур'ёзнай базай для падрыхтоўкі нацыянальных кадраў у сферы культуры. Пра гэта гавораць і нашы праграмы, складзеныя паводле агульнаеўрапейскіх узораў і запатрабаванняў.

**— А на якой мове вядзецца выкладанне ва універсітэце?**

— У нас цяпер адміраючае двухмоўе. Нельга адразу і раптоўна пазбавіцца ўсяго таго, што яшчэ нядаўна здавалася натуральным. На першым курсе ў нас вядзецца выкладанне толькі на беларускай мове. На другім спецыяльныя дысцыпліны чытаюцца па-беларуску. Астатнія курсы давучваюцца па ранейшай схеме. Аднак беларускасць — гэта не толькі мова, але і змест усёй нашай працы. Яна праяўляецца ў мастацкай творчасці і студэнтаў, і выкладчыкаў, у вывучэнні і прапагандзе беларускага фальклору, народных звычаяў і абрадаў, народных святаў. У вучэбных планах усіх спецыялізацый ёсць такія дысцыпліны, як нацыянальная гісторыя, гісторыя нацыянальнай культуры, беларуская мова і літаратура, гісторыя беларускага мастацтва. Студэнты вывучаюць таксама развіццё філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі, этнапсіхалогію беларусаў.

**— А ці не атрымаецца абмежавання толькі нацыянальным, ці не адгародзімся мы ад здабыткаў сусветнай культуры?**

— Ні ў якім разе! Наш шлях — гэта шлях нацыянальнай культуры ў яе сусветным рэчышчы. І вывучаюць нашы студэнты не толькі фальклорную культуру, але і элітарную, шляхі ўзаемадзеяння культур элітарнай і народнай. Мы не забываем, што Беларусь рыхтуецца да ўваходу ў еўрапейскае і сусветнае супольніцтва, таму працэс навучання арыентаваны на сусветныя адукацыйныя і прафесійныя стандарты.

**— Гадоў 15 назад, калі я брала інтэрв'ю ў першага рэктара інстытута Алеся Петрашкевіча і пытала, каго рыхтуе ўстанова, ён адказваў, што ў асноўным бібліятэкараў і работнікаў сельскіх Дамоў культуры. Што змянілася, каго рыхтуе універсітэт сёння?**

— Калісьці... Ды яшчэ не так даўно гэта было, да нас паступалі часам людзі, якія не прайшлі па конкурсу ў кансерваторыю, харэаграфічнае вучылішча... Мы рыхтавалі спецыялістаў па 3-4 спецыяльнасцях. Так было, калі мы дубліравалі кансерваторыю, іншыя навучальныя ўстановы. Такое мінулася, і цяпер да нас ідзе моладзь, свядома накіраваная менавіта на нашу дзейнасць. Цяпер мы рыхтуем спецыялістаў каля 20 напрамкаў. Універсітэт не дубліруе ні адну навучальную ўстанову. Мы рыхтуем арганізатара творчасці, а не выканаўцу. На трох факультэтах — культуралогіі, мастацкай творчасці і бібліятэчна-інфармацыйных сістэм — вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў па народных рамёствах, па менеджменту, па нацыянальнай і сусветнай мастацкай культуры і іншых спецыяльнасцях. Зусім новы профіль дзейнасці і, лічу, вельмі неабходны — спецыяліст па сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі асобы сродкамі мастацтва. Гэта асабліва важна для жыхароў чарнобыльскай зоны, дзе растуць дзеці з чарнобыльскім комплексам. Мы рыхтуем прафесійных выхавацеляў, здольных аказаць маральную падтрымку часова абяздоленым, псіхічна неўраўнаважаным людзям, якія не ў сілах справіцца са стрэсамі, выкліканымі нашым неўладкаваным жыццём, нялюдскімі стыхійна-базарнымі адносінамі.

**— Дзе працуюць вашы выпускнікі? Ці забяспечваюць іх работай і ці існуе размеркаванне пасля заканчэння вучобы?**

— Размеркаванне на працу пасля інстытута — гэта рэшткі былой сістэмы, калі кантралявалася нават тое, пра што чалавек думае. Ёсць рэчы, куды ўмяшанне не патрэбна. Наша задача рыхтаваць спецыялістаў, а права кожнага з іх выбіраць, дзе жыць і чым займацца.

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

І МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "Я" Ў МІНСКУ

# ХТО ЧАКАЕ НАС У ЕЎРОПЕ?

Ці гэта не дзіва? У збянтэжаным горадзе, дзе людзі, здаецца, не думаюць ні пра што, акрамя павышэння цэнаў, а тэатры часта не запаўняюцца, фестываль монаспектакляў "Я" прайшоў з сапраўдным трыумфам. Гледачы ішлі туды натоўпам. Адны куплялі білеты, другія праўдамі і няпраўдамі набывалі запрашэнні. У залах не проста не хапала месцаў: і старыя, і малыя сядзелі на прыступках лесвіцы, стаялі ў праходах. А залы свае прадаставілі для правядзення фестывалю тэатр-студыя кінаакцёра, тэатр Янкі Купалы (малую сцэну), Рускі тэатр імя Максіма Горкага (малую сцэну).

На фестываль монаспектакляў у Мінск прыязджалі (ён быў уключаны ў каляндарны план Міжнароднага інстытута тэатра, у які тэатральная грамадскасць Беларусі была прынята ў снежні мінулага года ) старшыня Камітэта драматычных тэатраў МІТ-ЮНЕСКА, кіраўнік тэатра "Шаўшпіль Бон" Фрыдэр Вебер з Германіі, намеснік старшыні Камітэта драмтэатраў рэжысёр з Францыі Патрык Кейні, члены Камітэта драмтэатраў рэжысёр з Нарвегіі Ола Б. Йохансан і тэатральны менеджэр з Літвы Дайва Далшыене, драматург Веleры Хазанаў, рэжысёр з Германіі Вернер Фрыч.

Кожны дзень паказвалі па 2—3 спектаклі. Усяго іх было дванаццаць. Свае работы прывезлі тэатры з Расіі, Польшчы, Вялікабрытаніі, Германіі, Літвы. Журы на чале са старшынёй — кандыдатам мастацтвазнаўства Таццянай Арловай (у яго ўваходзілі Вячаслаў Ракіцкі, Валерый Баркоўскі — Беларусь, Марыя Сядых — Расія, Ніна Наваселіцкая — Украіна, Ілона Бунзайтэ — Літва) штодзень глядзела па 2—4 спектаклі.

Адкрываўся фестываль спектаклем Таццяны Мархель "Дзіця з Віфлеема" (рэжысёр М.Пінігін). Зямное жыццё Хрыста і жыццё кожнага маленькага чалавека паказаны ў спектаклі праз заручыны, вяселле, радасць нараджэння дзіцяці, хрэсьбіны. Таццяна Мархель спявала абрадавыя песні. Яе аповяд перамяжоўваўся батлеечным прадстаўленнем "Цар Ірад". Галоўная адметнасць спектакля, як мне здаецца, — ягоны нацыянальны каларыт. Таццяна Мархель заўсёды добра ўмела паказаць характар беларускай жанчыны (у фільмах "Людзі на балоце", "Алімпіяда"). І справа тут не ў народным касцюме (хоць трэба заўважыць: ён быў вельмі прыгожы), а ў дары гаварыць, пець, хадзіць, як жанчыны ў нашых вёсках. На жаль, журы не прысудзіла спектаклю ніякага прыза. Мне думаецца, таму, што ён разлічаны ўсё ж такі на мясцовага гледача. Калі для нас размах беларускай песні, трошкі крыклівыя народныя інструменты і нават батлейка — гэта роднае, то іншаземцы, якія глядзелі спектакль, аддавалі належнае таленту актрысы, але ўспрымалі ўбачанае як экзотыку, не болей.

"Хачу быць чалавекам" — назва спектакля, які іграў Генадзь Пшэнік (па творах парадаксальнага жанру Славаміра Мрожака). Сярод беларускіх спектакляў былі "Добравесці ад Уладзіміра" (выканаўца Валерый Шушкевіч, рэжысёр У.Матросаў), "Дзве прыгоды Люмюнэля Гулівера" (выканаўца Аляксандр Ткачонак, рэжысёр А.Міронаў), "Запіскі вар"ята" (выканаўца Валерый Глазкоў, рэжысёр І.Мацкевіч), "Белы сон" (выканаўца Галіна Дзягілева, рэжысёр В.Глебановіч). "Белы сон" — спектакль, створаны паводле "Споведзі" Ларысы Геніюш. Ён быў апошнім у праграме фестывалю. Можа, гэта неяк паўплывала на настрой актрысы... Але я глядзела спектакль упершыню і таму магу казаць толькі пра тое, што бачыла. Шмат слоў, за якімі, можа, ёсць пачуццё акцёра і аўтара, але якія не выклікаюць пачуцця гледача. Не скажаш, што спектакль сухі, неэкспрэсіўны. Але вельмі часта ловіш сябе на думцы, што на сцэне адбываецца нешта штучнае. Часта проста не разумееш, што кажа актрыса, бо ёй перашкаджаюць яе ж рухі, тэмп, у якім яна гаворыць. У спектаклі пастаянна гучыць адна і тая ж думка: "Люблю Беларусь". Крый Божа, сумнявацца ў шчырасці слоў Ларысы Геніюш. Нездарма ж яна столькі пакутавала за сваю зямлю. Але каб глядач адгукнуўся тым пачуццём, сказаць "Люблю Беларусь" — мала. Тым больш мала для таго, каб ён зразумеў душу паэта. Спектакль не дае магчымасці даведацца амаль нічога пра сына Геніюш. Яна быццам баялася думаць пра яго за кратамі, думала пра Беларусь. Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што кожная жанчына думае ў цяжкія для сваёй краіны часы найперш пра сваё дзіця. У спектаклі пра паэтэсу шмат вершаў У.Арлова, У.Караткевіча, В.Ластоўскага, А.Разанава, толькі не самой Геніюш.

З Польшчы на Беларусь прывезлі спектакль "Інвакацыя", з Расіі — "Шэрачка з Машэрачкай", "Мой лепшы сябар", з Літвы — "Спевы Лазаравы", з Вялікабрытаніі — "Свячэнне Альбіёна", з Германіі — "Каса".

Драматург А.Дудараў назваў ініцыятыву акцёраў іграць спектакль у адзіночку подзвігам. Ён быў у захапленні ад таго, што акцёры могуць ствараць тэатр у адной асобе і здольныя даказаць гледачу: кожны акцёр — гэта сусвет. Прапанаваныя гледачам спектаклі былі вельмі розныя па тэме, па выкананню. Польскі акцёр Вітольд Дуброўскі (рэжысёр Томаш Петрасевіч) паказаў спектакль-мініяцюру, куды ўвайшла інтымная паэтыка Эліёта, Кафкі. Літоўскі акцёр Павелас Будрыс сыграў мона-п"есу балгарскага драматурга Іардана Радзічкава. Акцёр атрымаў ІІІ прыз на фестывалі.

Да цудоўнага выканання дадалі мяккі і тонкі пераклад. Па сюжэту п"есы чалавек прыходзіць у лес, каб забіць шалёнага сабаку. Але страляе не ў яго, а ў ланцуг. Сабака вызвалены і, разумеючы, што з ім хацелі зрабіць, кідаецца на чалавека, той ратуецца на дрэве. Там ён нечакана для сябе ласуецца грушай, дзівіцца яе паху і зайдросціць людзям, якія, на яго думку, раней жылі толькі на дрэвах. Лазар размаўляе з сабой, з сабакам, які яго пільнуе пад дрэвам. П"еса насычана такой абаяльнай наіўнасцю і чысцінёй думак чалавека, якому няма чаго хаваць ні ад людзей, ні ад сябе, што, улічваючы яшчэ і гумар Лазара, глядзіцца спектакль вельмі прыемна.

І прыз фестывалю атрымаў беларус Валерый Глазкоў за спектакль "Запіскі вар"ята". Аснова п"есы — "Пецярбургскія аповесці" М.Гогаля. Чыноўнік-вар"ят часоў Пецярбурга Гогаля і наша сённяшняе жыццё змясціліся ў адным спектаклі, а выкананне ролі чыноўніка было годнае І-га прыза Міжнароднага фестывалю монаспектакляў "Я".

ІІ прыз атрымала праца Ігара Ларына "Мой першы сябра". У спектаклі — дзве часткі. Першая — успаміны І.Пушчына і вершы А.Пушкіна, другая — "Яўнегій Анегін". Свет Пушкіна нельга спасцігнуць поўнасцю ніколі. Спектакль набліжае да яго яшчэ раз. Ігар Ларын проста так не прачытаў ніводнага радка, ён сыграў кожнае слова.

Былі і іншыя прызы. Спецыяльны прыз быў уручаны Валерыю Шушкевічу. Беларускі нацыянальны цэнтр Міжнароднага інстытута тэатра прысудзіў прыз Джэфры Хэрысу за высокую выканаўчую культуру.

Самаму маладому выканаўцу Генадзю Пшэніку журы прэзентавала свой ганарар — 60 тысяч рублёў. На думку журы, гэтая сума "дазволіць прадоўжыць акцёру сваю дзейнасць".

Аляксей Дудараў некалькі разоў паўтараў на фестывалі, што ў Еўропе чакаюць беларускую культуру і таленты, а ўступленне ў МІТ дае магчымасць Беларусі наладжваць новыя сувязі. Усё лепшае, што ёсць у тэатрах Беларусі, будзе вядома ў Парыжы (там размешчана штаб-кватэра МІТ). А ўсё лепшае, што ёсць у свеце тэатра (у МІТ уваходзіць 87 краін), праз Парыж прыйдзе на Беларусь. Шчаслівы, хто верыць.

**Алена СПАСЮК.**



**НА ЗДЫМКУ: акцёр Вальфрам КЮНКЕЛЬ (Германія) у спектаклі "Каса".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# БЫЦЦЁ І ЧАС У ЛЮСТЭРКУ ПАЭЗІІ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Тады, пасля паражэння Рэчпаспалітай Польскай ад фашысцкай Германіі, Беласточчына ў складзе Заходняй Беларусі была далучана да БССР. Напярэдадні перамогі над Германіяй у 1944 годзе бальшавіцкі ўрад у Маскве чарговы раз выкарыстаў Беларускую зямлю ў якасці разменнай манеты: заплаціў Беласточчынай за абяцанне польскіх камуністаў далучыцца да "сацыялістычнага лагера".

Гісторыя, этнаграфія, лёс нацыянальнай культуры тут былі прыкладна такія ж, як і ў БССР. Працэсы урбанізацыі і тэхнацывілізацыі адбываліся не спакваля і не арганічна, як у Заходняй Еўропе альбо Японіі, а ўзрывападобна, у Савецкай Беларусі яшчэ па-бальшавіцку нахрапіста. Памятаю, да суцэльнай калектывізацыі маёй Наваградчыны, працуючы на занёманскіх сенажацях, мы любілі нагбом напіцца з Нёмана: праз тоўшчу вады наглядалі плямістую стронгу. Нават Менск маіх студэнцкіх гадоў (1954—1959) запомніўся пахам дзятлаўкі і пчаліным зыкам. А праз 36 гадоў дажылі да апакаліптычнай зоркі Палын. І да больш небяспечнага, духоўнага Чарнобыля — бязмоўя, нацыянальнага бяспамяцтва...

Экалагічны лёс Беласточчыны быў шчаслівейшым. Вясной 1991 года я з Алесем Разанавым праехаў прыпушчанскія гміны (Бельск-Падляскую і суседнія з ёю).Мне здалося, што гэты краёчак, што прытуліўся да Белавежскай пушчы, яшчэ нечым напамінае той першаствораны Эдэм, гаспадаром якога калісьці Бог паставіў чалавека. Але дэнацыяналізацыя гарадоў, мястэчак і вёсак там адбывалася яшчэ больш шпарка, чым русіфікацыя нашай Гародзеншчыны. Беларуская творча-культурная рунь прабілася там у гады "хрушчоўскай адлігі", якая пэўным чынам паўплывала на пацяпленне палітычнага клімату ў краінах так званай "народнай дэмакратыі". Якраз тады ў Беластоку ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ, 1956), пачалі выдавацца беларуская "Ніва", "Беларускі каляндар". Выйшаў літаратурны зборнік "Рунь" (1959), у якім дэбютавалі вядомыя сёння беластоцкія літаратары (Алесь Барскі, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук і інш.), у тым ліку Янка Дубіцкі (псеўданім Я.Чыквіна). Урэшце літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Белавежа" (1958) і аднайменны альманах (выходзіць з 1965 года) засведчылі беларускую прысутнасць у Польшчы і сфарміравалі тую духоўную "рэшту", тую беларускую "закваску", якую пакінулі нашчадкам крывічы і літвіны гэтага цудоўнага пушчанскага краю.

У такім асяродку прабілася беларуская стыхія Яна Чыквіна скрозь школьныя і універсітэцкія набыткі польскай і расійскай культур. Паэт па спадчыннаму дару і літаратуразнавец па адукацыі, ён быў строгім крытыкам сваіх твораў. Не спяшаўся іх друкаваць: ад дэбюту ў "Руні" да першага зборніка "Іду" (1969) прайшло дзесяць гадоў. За гэты час ён закончыў Беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім, аддзяленне рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, абараніў кандыдацкую, пазней доктарскую дысертацыі, напісаў даследаванне аб творчасці А.Фета. Набыты сацыяльны і духоўны вопыт выявіўся ў пазнейшых паэтычных кніжках — "Святая студня" (1970), "Неспакой" (1977), "Светлы міг" (1989).

А першы зборнік "Іду" засведчыў па-юначаму цэласнае, радаснае (але з гаркавінкай суму) успрыманне жыцця, народжанае маладым спадзяваннем назаўсёды захаваць адзінства двух светаў: бацькоўскага вясковага гнязда і гарадской цывілізацыі, якая тады яшчэ не выявіла сваю урбаністычную экспансіўнасць. Пераклікаючыся з папулярным вершам Рыгора Барадуліна "Трэба дома бываць часцей...", Ян Чыквін абвяшчае сваю веру, абяцаючы бацькам:

**Я жыць хачу, як вы жылі:**
**Сярод палёў, звяроў і**
**чыставоддзя,**
**Здалёк ад арадоў, машын**
**І цывілізованых паводзін...**

Арганічная паэзія эпохі "вясковай культуры" жывіцца душэўнымі назапашваннямі дзяцінства і юнацтва, прапушчанымі праз духоўны вопыт сталасці. Гэтую таямніцу паэзіі засведчыў ранні паэт Чыквін, калі напісаў: "Дзяцінства // за мною няспынна ідзе // ў размалёванай // фарбамі сонца сукенцы, // як адно звяно // незабыўных падзей // у сугуччы // даўно // абяцанай надзеі". Паэт адчувае гэтую парадаксальную і богадатную "інфантыльнасць" паэтычнага таленту, калі спавядаецца перад чытачом: "Бо як жа я ў юнацтва зайду, // калі з дзяцінства вярнуцца забыўся" ("Сэксціна"). Мабыць, самы дасканалы верш першай кніжкі Я.Чыквіна "Дзяцінства" ("Цішэй, цішэй... Прыпамінаецца былое..."), а яе танальны ключ — верш "Гайнаўшчына". Яны пераклікаюцца з ранніміі вершамі Н.Гілевіча (кнігі "Прадвесне ідзе па зямлі", "Бальшак"), хоць тут дамінуе не песенная, спецыфічна Гілевічавая мелодыка, а хутчэй рэчытатыўная сілабічная рытміка: "Знаёмая дарога, лес, лугі, поле — // на Гайнаўшчыне дыхаецца ўволю. // І радасна ідзеш дамоў, лёгкі ногі, // калі знаеш: чакаюць з дарогі".

У паэтычнай кніжцы "Іду" моцна адчуваецца дыстанцыя паміж вучнёўскім дэбютам і выспяваннем мастацкай сталасці аўтара. Яна выявілася ў паступовай рэдукцыі матываў вясковага раю, у нарастанні канфліктаў паміж архетыпамі спрадвечнага сялянскага быцця і сучаснымі цывілізатарскімі тэндэнцыямі, паміж бацькоўскім домам і нацыянальна неабжытым горадам. Гэтыя канфлікты адклікнуліся ў душы паэта дысгармоніяй паміж наяўным жыццём і маральнымі імператывамі. Завязка гэтага драматызму ёсць у вершы "А дом наш недзе..." (1964): "Вечарам духмяныя ўстаюць агароды, // Бярозы рукі апускаюць у крыніцы, // Чаромхі ўецца непаслухмяны водар, // Як віно, якога нельга ўжо напіцца (...) У садзе нашым зноў цвітуць кусты язміну, // Макі грэюць рукі, узняўшыся высока. // А дом наш, як далёкія ўспаміны...// Без дзвярэй, без тыну і без вокан". Гэта традыцыйная для беларускай сялянскай паэзіі элегія. Праз год напішацца верш "Дом", дзе гэты сімвал Бацькаўшчыны — суб'ект драматычнай экспрэсіі, якая мяжуе з сюррэалістычнай містэрыяй: "Я — роспач, скарга. Я — руіна. // Я — боль. Я — слёзы. Я — праклён. // Я тое, што не згіне. // Я кожны захад вашых дзён (...). З рук маіх ліецца кроў, // У маіх баках спяць міны, // Каб знюхацца з жыццём ізноў // У адну хвіліну..."

"Я — тое, што не згіне..." Гучыць, як першы радок польскага гімна: "Ешчэ Польска не згінэла..." Магчыма, я памыляюся, але мне здаецца, што тут загучала славянскае, нехарактэрнае для еўра-амерыканскай свядомасці прароцтва пра адраджэнне традыцыйных сялянскіх каштоўнасцяў у будучыні. У тым ліку традыцыйнай народнай культуры і маралі, сімвалам якіх у паэта служыць бацькоўскі дом. Аўтар "Уступнага слова" да кніжкі вершаў Яна Чыквіна "На парозе свету" (у перакладзе на польскую мову, 1983 год) Эльжбета Феліксяк далікатна падступіла да адраджэнскай тэматыкі, але не развівае яе, абмежавалася заўвагай, быццам бы "імператыў вяртання" да сялянскага дому ў паэта пераходзіць у заклік да вернасці карэнням "натуральнай экзістэнцыі", каштоўнасці якой неадназначныя. На думку польскага крытыка Ул. Смаршча (яго артыкул друкаваўся ў зборніку "Збліжэнні: партрэты беластоцкіх пісьменнікаў", Беласток, 1990), бацькоўскі дом у паэзіі Чыквіна — як біблейскі Ноеў каўчэг, ад якога наноў адрадзіўся свет. Але крытык убачыў тут вядомую ў еўрапейскай паэзіі ідэалізацыю "страчанага раю", куды ўжо нельга вярнуцца; можна толькі "кампенсаваць" гэты рай, стварыўшы яго паэтычны аналаг. Не прыкмеціўшы зашыфраванай у паэтычнай мове Чыквіна адраджэнскай, спецыфічна беларускай ідэі, Ул. Смаршч перабольшвае "польскасць" паэта і ўплывы на яго творчасць расійскіх сімвалістаў, а "беларускасць" абмяжоўвае фальклорнымі традыцыямі і мовай.

Бліжэй да паэтычнага свету Яна Чыквіна падышла Тэрэса Занеўская. Яна звярнулася да выяўлення прасторавых архетыпаў і ключавых сімвалаў яго паэзіі, да супрацьпастаўлення двух "шляхоў вяртання" — шляху Адысея (у сваю родную Італу) і шляху Энея (будаванне "новага дому" — Рыму па ўзору Троі). Крытык прыкмеціла, што паэтычны свет Яна Чыквіна сфармаваўся на сумежжы беларускай і польскай культур, "экспануецца" на мяжы явы і сну, рэальнасці і мары, дня і ночы, што, на маю думку, было і ў паэзіі Максіма Багдановіча. Крыніцу трагічнага ў творчасці Чыквіна яна бачыць у незваротнасці былога і адчужанасці лірычнага героя ад свету свайго дзяцінства, куды ён вяртаецца ў сваіх марах-снах. "Хочацца паўтарыць тут за Л. Шастовым, — піша Т. Занеўская, — што "мінулае не вяртаецца". Вадаплавы адплылі, масты спаленыя, і трэба ісці наперад, у невядомую ды жудасную будучыню". Мне здаецца, што тут Л. Шастоў сказаў не самую лепшую сваю думку. Таму варта паўтарыць за больш фундаментальным Эклезіястам: "Што бывала, тое і будзе: і што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам. Бывае нешта, пра што кажуць: "глядзі, вось гэта новае"; але гэта было ўжо ў вяках, быўшых да нас". Можна, урэшце, перавесці гэтае песімістычнае прароцтва ў аптымістычную перспектыву хрысціянскай папраўкай да эліністычнага па духу рэфрэну Эклезіяста. Замест "няма памяці аб мінулым" сказаць следам за М. Багдановічам: "Усё мінае, праходзіць, як дым, // Светлы ж след будзе вечна жывым".

**Уладзімір КОНАН.**

(Заканчэнне будзе).



**У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь незвычайная прэм'ера новага сезона — балет "Шахразада" на музыку М.Рымскага-Корсакава. Яркі, бліскучы спектакль балетная трупа тэатра прысвячае 150-годдзю вядомага рускага кампазітара.**

**Стварылі спектакль пастаноўшчык-балетмайстар з Масквы заслужаная артыстка Расіі Ларыса Трамбавельская, дырыжор Анатоль Лапуноў, аформіў — заслужаны мастак Расіі Леў Саладоўнікаў. Працаваў калектыў пад кіраўніцтвам галоўнага балетмайстра тэатра Ніны Дзьячэнка.**

**Разам з аднаактовым балетам "Шахразада" было паказана канцэртнае аддзяленне, якое складалася з харэаграфічнай мініяцюры "Па-дэ-катр" Цэзара Пуні і фрагментаў з вядомых балетаў. Перанос харэаграфіі "Па-дэ-катра" ажыццявіла для мінскага тэатра заслужаная артыстка Расіі, у мінулым балерына Марыінскага тэатра (г. Санкт-Пецярбург) Ксенія Тэр-Сцяпанава.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна з балета "Шахразада".**

**Фота А.НІКАЛАЕВА.**

## Мікола НІКАЛАЕЎ:

# "МОЙ НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ — ПРА РАДЗІМУ"

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

мной цэлы дзень, то... Аднак адны дзверцы да гэтага сакрэту магу адчыніць: першую і трэцюю суботу кожнага месяца мяне можна знайсці а 16-й гадзіне ў этнаграфічным музеі, дзе збіраецца наша беларуская суполка...

**— ... намеснікам старшыні Рады якой вы маеце гонар быць. Ці не стамляе вас такая напружаная — ад відна да цямна — дзейнасць: чыста адміністрацыйная праца, навуковыя пошукі, а тут яшчэ і суполка!**

— Наадварот! Суполка — гэта тая адтуліна, якая дазваляе глынуць свежага паветра і набрацца сіл, а найперш — пачуць родную мову і проста адвесці душу ў сяброўскай размове.

**— А калі ўспомніць яшчэ пра адну вашу іпастась — тэлезоркі... Во, бачыце, — і ўсміхнуліся! Згодзен, што жарт ёсць жарт, але тое, што вы — амаль нязменны вядучы ў перадачах Беларускага тэлебачання, якое час ад часу знаёміць гледачоў з жыццём беларускай дыяспары ў Санкт-Пецярбургу, адмаўляць нельга. Вы не баіцеся тэлекамеры!**

— Я яе паважаю. Як яшчэ адзін сродак данесці інфармацыю да суайчыннікаў. А ў час здымкаў — імкнуся пра яе не думаць. Мой найпершы клопат — пра Радзіму. Не толькі тады, калі я стаю перад камерай.

**— І яшчэ адно пытанне: ці марылі вы, колішні наваградскі хлопчык, што трапіце некалі ў Пецярбург і будзеце працаваць у славутай бібліятэцы!**

— Ніколі!

**— Тады як вы апынуліся тут!**

— Відаць, першае зернетка закінула ў свядомасць ці, лепей, падсвядомасць Фрыда Давыдаўна Гурэвіч, якая вяла раскопкі ў Наваградку. Мы з хлопцамі тады проста зараблялі грошы. Але ў тым, як яна ставілася да сваёй працы, а таксама да нас, было штосьці такое, што пакінула след. Яшчэ адзін след застаўся ад Міхася Ткачова, тады яшчэ маладога. Памятаю, як ён насіў на руках Марыну Уладзі, якая знайшла колькі некінематаграфічнага часу, каб завітаць на раскопкі.

Напэўна, пад уплывам двух гэтых людзей — Гурэвіч і Ткачова — я абраў сваёй спецыяльнасцю гісторыю. Пасля заканчэння БДУ меркаваў паступіць у аспірантуру, але не меў рэкамендацыі партыйнай арганізацыі, хаця за рэферат "Картаграфія Беларусі" атрымаў пяцёрку. Трэба было набываць працоўны стаж. І я паехаў у Ленінград, каб, працуючы там, мець большы доступ да гістарычных крыніц і дакументаў, якіх на Беларусі не было. Вольным слухачом наведваў Ленінградскі універсітэт, дзе пазнаёміўся з сапраўднай арганізацыяй навукі, з гісторыяй кніжнай навукі (дарэчы, Беларусь і дагэтуль не рыхтуе выкладчыкаў палеаграфіі — умення чытаць старажытныя рукапісы), карацей, атрымаў магчымасць адукаваць сябе.

**— Дык мо варта падзякаваць тым партыйцам, якія адмовілі вам у рэкамендацыі!**

— На лёс не трэба крыўдаваць. Трэба ўмець да яго прыслухоўвацца.

**— Можа хіба лёс падказваў вам... яшчэ там, у Наваградку!**

— Ведаеце, калі я быў малы (а ў нас, у хлапцоў, была завядзёнка — скочвацца з Замкавай гары), дык вось, помню, калі скочваўся, то лез назад, на гэту гару, высозную, да неба... чапляўся за траву, за што мог, абы далезці, бо не далезці было ганьбай, і калі стамляўся, туліўся да зямлі. І пах яе чуецца мне і дагэтуль. Не якой-небудзь, не проста зямлі, а менавіта Наваградскай, роднай, сваёй... І калі бывае цяжка, я кажу сабе: "Супакойся! Перадыхні! Набярыся сіл!" І яны вяртаюцца праз гэты ўспамін. Хіба пасля гэтага не будзеш удзячны тым мясцінам, дзе правёў сваё дзяцінства?! Хіба не пакалапоцішся, жывучы так далёка ад Радзімы, каб зрабіць што-небудзь карыснае для роднай Наваградскай зямлі, для ўсёй Бацькаўшчыны?!

**Гутарку меў**
**Анатоль КІРВЕЛЬ.**



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)

**Сённяшнія Смаляны — невялікая вёска ў Аршанскім раёне Віцебскай вобласці, размешчаная паблізу перакрыжавання аўтамабільных дарог на Оршу і Багушэўск. Аднак яшчэ на пачатку бягучага стагоддзя гэта было досыць вялікае ды прывабнае мястэчка над ракой Дзярноўкай, якое па адміністрацыйным дзяленні належала да Аршанскага павета Магілёўскай губерні. Тут жыло каля чатырох тысяч чалавек, пераважную большасць сярод якіх складалі яўрэі, было 4 царквы, каталіцкі касцёл, сінагога ды 4 малітоўныя школы. У мястэчку дзейнічаў цагельны завод, сыраварня, існавалі бальніца і аптэка. Смаляны маюць багатую і цікавую гісторыю, да якой неадноўчы спрабавалі прыступіцца як спецыялісты-навукоўцы, так і аматары-краязнаўцы. Аднак грунтоўна распрацаванай ды абагульняючай усе звесткі працы па гісторыі вёскі, на жаль, не існуе і зараз. Абапіраючыся на дасягненні сваіх папярэднікаў, паспрабую падзяліцца з шаноўнымі чытачамі некаторымі вынікамі ўласных архіўных росшукаў ды бібліяграфічных знаходак.**

### БОНА СФОРЦА І ІНШЫЯ

У цікавай і змястоўнай кнізе сп. А. Шынкевіча "Аршанская даўніна" ў дачыненні да Смалян згадваецца наступная прыгожая легенда, якую мясцовыя жыхары распавядаюць пра тутэйшы замак: "У цёмныя восеньскія ночы, калі туман ад Дзярноўкі ахінае вежу знізу і толькі верхняя яе частка застаецца бачнай, нагадваючы фантастычны прывід, у вокнах, якія робяцца падобнымі на вочныя дзіркі шкілета, запальваецца таямнічае святло. Аднекуль з-пад зямлі чуецца дзівосная музыка, і паказваецца жанчына ў белым адзенні. Яна доўга-доўга моўчкі ўглядаецца ўдалеч, прыслухоўваецца да начной цішыні... Паводле падання, гэта і ёсць каралева Бона, чыім імем тубыльцы найчасцей называюць колішні замак". На жаль, гэтая легенда, як і шмат якія іншыя народныя паданні, не мае з гістарычнымі фактамі нічога агульнага. Дастаткова прыгадаць, што смалянскі замак быў узведзены на пачатку XVII стагоддзя, у той час як каралева Бона памерла яшчэ ў 1557 годзе.

Самы ранні з вядомых сёння дакументаў, у якім згадваюцца Смаляны, адносіцца да 1484 года. У ім паведамляецца аб тым, што вялікі князь Казімір аддаў "имене на имя Смоляне" князю Сямёну Іванавічу Бельскаму. Пасля ад'езду князя Сямёна ў Маскву Смаляны зноў перайшлі ў разрад вялікакняскіх уладанняў. У 1501 годзе гэты маёнтак атрымала Алена, жонка вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, у 1522 годзе — князь Канстанцін Астрожскі і яго сын Ілля. На пачатку 1540-х гадоў "двор Смолняны (...) держал городничий городенский князь Семен Богданович Одинцович". З 1543 года Смаляны амаль на тры стагоддзі перайшлі ва ўласнасць славутага роду князёў Любартавічаў-Сангушкаў.

На пачатку XVI стагоддзя род Сангушкаў герба "Пагоня" яшчэ падзяляўся на тры лініі (дзве з якіх праз некаторы час цалкам выгаслі). Князь Васіль Міхайлавіч належаў да ковельскай лініі, што мела вотчыны на Валыні і часткова на поўдні Беларусі. З таго часу, як у 1518 годзе князь дамогся атрымання ад караля Жыгімонта I прывілея на магдэбургскае права для свайго радавога маёнтка Коўля, да свайго прозвішча ён змог з поўным правам дадаць прыдомак Ковельскі. Гэтае найменне засталося за ім нават пасля таго, калі ў 1543 годзе ён страціў ковельскія ўладанні, саступіўшы іх каралеве Боне ў абмен на маёнткі Смаляны, Абольцы ды Горвал на Віцебшчыне і Міншчыне. Такі абмен мусіў адбыцца з прычыны "великия кривды и втиснения", якія князь Васіль Міхайлавіч Сангушкавіч Ковельскі цярпеў ад "брати своее кровное и от иншых обаполных суседов". Каралева Бона сама не валодала Смалянамі, а абмяняла іх на Ковель з дазволу свайго мужа Жыгімонта I Старога, яму яны фактычна і належалі. Аднак па іроніі лёсу імя каралевы, якая хутчэй за ўсё так ні разу і не наведала Смаляны, трывала замацавалася ў вуснай гісторыі мястэчка, у той час як імёны не аднаго пакалення князёў Сангушкаў незваротна канулі ў Лету.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: І. ПЕШКА. Замак у Смалянах. Канец XVIII — пачатак XIX стагоддзяў.**



## ХРАМ У ЛЮБАНІ

У Любані прыняла першых прыхаджан праваслаўная царква, пабудаваная па шматлікіх просьбах жыхароў раёна. Узводзілі храм усім мірам, у баку не застаўся ніводзін працоўны калектыў — хто грашыма дапамог, хто будматэрыяламі.

Адкрыццё царквы супала з правядзеннем раённага сельскагаспадарчага кірмашу-продажу. Хтосьці нават хваляваўся, каб гэта не перашкодзіла ўрачыстасці. Хваляванні аказаліся дарэмнымі. У царкве, як гавораць, і яблыку не было дзе ўпасці. Першую службу правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт.

### ПРАЧЫТАЙ УВАЖЛІВА!

**Пасля распаду Савецкага Саюза і адпаведна — раздзялення савецкіх пасольстваў на расійскія, украінскія, беларускія і іншыя нашы суайчыннікі сутыкнуліся з праблемай атрымання віз у краінах іх пражывання. У сваіх пісьмах у рэдакцыю "Голасу Радзімы", прыватных гутарках людзі скардзяцца на тое, што не могуць знайсці дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі, не ведаюць яго адрас. Ідучы насустрач шматлікім пажаданням замежных суайчыннікаў, газета "Голас Радзімы" будзе рада дапамагчы ім і змяшчае на сваіх старонках адрасы і тэлефоны пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь, якія адкрыліся за апошні час у далёкім і блізкім замежжы.**

**Гэты спіс нашых прадстаўніцтваў мы будзем рэгулярна друкаваць у газеце. Ён будзе падаўжацца па меры адкрыцця новых пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь за мяжой.**

1. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША
1619 New Hamphshire Ave. N.W. Washington D.C. 20009, tel. 202-986-1604.

2. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Швейцарскай Канфедэрацыі, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры Міжнародных арганізацыях у Жэневе
Av. de La Paix 15, 1201 Geneve, Suisse (8-104122) tel. 733-18-70.

3. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Аўстрыя, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене
Erzherzog Karl-Strasse 182, Vienna a-1220 Austria, tel. 229-352.

4. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА
1, rue Miollis 75015 Paris, tel. (8-10-331) 43-80-08-92.

5. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча (Варшава)
Warsaw Athenska Street 67, tel. 17-39-54.

6. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Гданьску
Тэл. 41-00-26 або 41-40-26, Гданьск.

7. Пасольства Рэспублікі Беларусь у дзяржаве Ізраіль
2 Hoffmann Strasse (Belt Hatextill) Tel Aviv, Israel. Tel. 510-22-36, 510-23-37.

8. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ
Waldstrasse 42, Postfach 200908, 5300 Bonn 2 v Bad-Godesberg, BRD. Tel. (0228) 31-88-40.

9. Пасольства Рэспублікі Беларусь у КНР
Ul. Duntch Zhi Man Jai, Beitch Zhun Tse, D. 4. Beijing. Tel. 532-64-26.

10. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі
вул. Марасейка, 17, 101100, г. Масква. Тэл. (095) 924-70-31.

11. Пасольства Рэспублікі Беларусь на Украіне
Тэл. (044) 293-63-41.

12. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы
вул. Раўгіклас, 25, Вільнюс. Тэл. (0122) 26-03-17.

13. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы
г. Юрмала, санаторый "Беларусь". Тэл. (0132) 75-13-30, (75-26-45).

14. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі
1, St. Stephan's Crescent, Bayswater, London W 25 QT. Tel. 221-39-41.

15. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі
Тэл. 66-88-19 і 66-21-47.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1590. Падпісана да друку 8. 11.1993 г.